## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкім радыё.

### ДУДАРЫКІ
(З рэпертуару Т. Раеўскай)

**Ой ляцелі, ой ляцелі, ой ляцелі камары.**
**Дударыкі, дударыкі, дударыкі, дудары.**
**Ой сустрэлі, ой сустрэлі майго любага ўгары**
**Дударыкі, дударыкі, дударыкі, дудары.**

**Я чакала, я спявала, я спявала пра любоў.**
**Няўжо, любы, няўжо, любы, ты баішся камароў?**
**Нізка ў полі травы гнуцца**
**І да самай, да зары**
**Навакол мяне ўюцца**
**Жаніхі, як камары.**
**Жаніхоў я адганяю,**
**З неба зорак не лаўлю,**
**Аднаго цябе кахаю,**
**Аднаго цябе люблю.**

**Адляцелі, адляцелі, адляцелі камары,**
**Дударыкі, дударыкі, дударыкі, дудары.**
**Назаўсёды, назаўсёды**
**Мы сустрэліся ў бары,**
**Дударыкі, дударыкі, дударыкі, дудары.**

### ЭПІТАФІІ
Чынушы

**Япчэ б мог жыць, але ўжо спіць — даў маху: партфель баяўся уступіць — памёр ад страху.**

Ловеласу

**Начамі плачуць тут, каля пліты, твае любоўніцы, ці чуеш? Яны не ўпэўнены, ці ты там, у труне сваёй, начуеш.**

Паклёпніку

**Ты пры жыцці амаль не спаў: паклёпы языком кляпаў, — хай там хаця спакойна спіцца і пастарайся нам не сніцца.**

**Васіль Жуковіч**

**З суседскага агародчыка.**








— Просяць паўтарыць...

### НЕ ПАДАЗРАЕ

— Мая жонка часта размаўляе сама з сабою.

— І мая таксама, але, нябога, нават таго і не падазрае...

— Як гэта?

— Яна думае, што я яе слухаю...

### У ТЭАТРЫ

Акцёр выхваляецца знаёмым:

— Калі ўвайду ў ролю, перада мною знікае сцэна, дзеючыя асобы, гледачы...

— Думаю, да гледачоў вы не маеце прэтэнзіі? — усміхнуўся адзін са слухачоў.

### РЭЦЭПТ

— Гэты грыбы на дзіва смачныя! Дзе вы дасталі рэцэпт, пані суседка?

— Нядаўна вычытала ў адным дэтэктыве пра атручанне...

### САКРАТАРКА

Дырэктар пытае сакратарку:

— Вы заняты ў нядзелю?

— Не, пане дырэктар, я свабодная, — адказвае яна, чырванеючы.

— Тады патурбуйцеся хоць раз не спазніцца ў панядзелак на службу.

### МАГАЗІН

— Я люблю хадзіць у гэты магазін. Тут апукваюць ветліва, а ў іншым — груба.



Made in Zadrypanka.



**Умеў трымаць у руках усіх, апрача сябе.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Чаму ў зайца пярэднія ногі карацейшыя? — пытае адзін сябар другога.

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Таму што Гасподзь стварыў яго ў канцы чацвертага квартала.

*

Пажылая дама купляе тэлевізар. У першы дзень яна паглядзела футбольны матч, на другі дзень паказвалі рэгбі.

Дама звярнулася ў магазін.

— Вы прадалі мне бракаваны тэлевізар, — паскардзілася яна. — Учора мяч быў круглы, а сёння ён чамусьці авальны.

*

У ваенным самалёце, з борта якога праводзіліся трэніровачныя скачкі, раптам пачынаецца паніка.

— Што здарылася? — пытае інструктар.

— Радавы Бім Джампінг скочыў без парашута.

— Як?! Зноў?!

### КРЫТЫКАН

Крытыкаваў не раз Панас
І гарсавет, і камунгас.
Што дзе ні ступіш — ямы, гразь.
Ну хоць ты з хаты не вылазь
І вось давесці ўсё да ладу
Мясцовыя рашылі ўлады.
Яны заклікалі ў суботу
Пачаць на вуліцах работу.
Аднак, казалі, сярод мас
Адзін адсутнічаў — Панас.

**Браніслаў Мароз**

З „Весніка Задрыпоніі"

### ВЫНАХОДСТВЫ — У ЖЫЦЦЁ!

Фрэзероўшчык аб'яднання па выпуску цяжкіх швейных машын А. Папыркевіч, які ніколі не выконваў зменных заданняў, вынайшоў спецпрыладу, якая ўтрая скараціла час, які патрэбны для вырабу кожнай дэталі. Цяпер Папыркевіч не выконвае зменныя заданні ў тры разы хутчэй.

### ПЫТАННЕ РАБРОМ

Ці можа быць спакой у сям'і, у якой муж раўнівы, а жонка не дае яму ніякай падставы да рэўнасці.




Без слоў.





— А дзе Сідарэвіч?
— Яму жонка пыласос купіла.




### УДАКЛАДНІЛІ

Апісваючы дыпламатычнае снеданне ў французскім міністэрстве замежных спраў, найаўтарытэтнейшая газета Злучаных Штатаў Амерыкі „Нью-Йорк таймс", не спадзеючыся, відавочна, на азнаёмленасць сваіх чытачоў, лічыла за неабходнае ўдакладніць: „Хоць прозвішча кухара было Маркс, ён не мае нічога супольнага з тым славутым рускім, у якога было такое самае прозвішча".

Інфармацыя, вядома, цікавая. У прыватнасці — як сведчанне выключнай эрудыцыі яе аўтара, а таксама і тых, хто гэтае сачыненне ў друк благаславіў.

### З КНІГІ ГІНЕСА

Амерыканец Рып Хоуэл, які прасядзеў 17 з паловаю гадзін у сталітровым рэзервуары... тамат-нага соку, прызнаўся: „Напэўна, я з глузду з'ехаў"...

### ВЫЕХАЛІ ГАЛАСЫ

„У разгар летніх канікулаў наўрад ці можна сустрэць у горадзе шумныя дзіцячыя галасы. Усе яны цяпер выехалі ў загарадныя лагеры".

(З дапісаў у рэдакцыю)




**Каб не наступілі на хвост, ім трэба часцей віляць.**